

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№25(538) 4 лютага 1993 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 607902 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### О чем безмолвствует народ?

**Президент России Борис Ельцин подписал распоряжение о мерах по обеспечению всероссийского референдума 11 апреля 1993 г.**

Сформирована правительственная комиссия по проведению референдума для координации работы центральных и местных органов исполнительной власти, ей также поручено проанализировать позиции различных партий и движений и общественных организаций по вопросам, связанным с предстоящим референдумом.

Российские депутаты, выступающие против проведения референдума, собрали необходимое число подписей для созыва в марте внеочередного съезда народных депутатов с целью отменить апрельское событие.

ИТАР—ТАСС.

### Армейские будни

**Вчера в Киеве подписано соглашение о сотрудничестве между военными ведомствами Украины и Польши.**

Соглашение сроком на 5 лет предусматривает совместное обучение штабов и войск, обмен курсантами, установление систем связи, а также сотрудничество в области военных исследований между войсками ПВО и силами ВВС. Предусмотрены также регулярные встречи на уровне министров обороны и контакты между военными ведомствами двух стран.

Радио "Свобода".

### На пути ко "всеобщей ваучеризации"

**Началась практическая реализация закона Украины о приватизационных бумагах от 15 марта 1992 года, который предоставляет каждому имущественный сертификат на сумму 30 тысяч карбованцев, жилой чек на сумму 12 тысяч, а также земельный чек, номинальная стоимость которого еще не установлена.**

Для этого на каждого гражданина в отделении Сбербанка должен быть открыт именной депозитный счет согласно спискам, которые составляют государственные органы на местах. В Киеве составление списков уже закончено.

"Харьков-Новости"—РИД.

### Худо рублю, худо

**Президент Молдовы Мирча Снегур на встрече с банкирами указал на необходимость скорейшего введения в стране собственной валюты.**

Молдова уже выпустила свою денежную единицу, однако новая валюта не была введена в обращение из опасения, что дефицит государственного бюджета приведет к ее ослаблению. Руководство Приднестровья заявило, что в случае перехода Молдовы на свою валюту этот регион останется в рублевой зоне.

Радио "Свобода".

### С 4 февраля Национальным банком Республики Беларусь установлены курсы иностранных валют

| | Единый курс | Курс инвест. | К долл. США |
|---|---|---|---|
| 1 австрал. доллар | 387.70 | 202.98 | 1.4779 |
| 1 австр.шиллинг | 49.85 | 26.10 | 11.4945 |
| 1 фунт стерлинг | 837.72 | 438.60 | 0.6840 |
| 10 бельг.франков | 170.13 | 89.07 | 33.6801 |
| 1 немец. марка | 350.69 | 183.61 | 1.6339 |
| 1 голан.гульден | 311.66 | 163.17 | 1.8385 |
| 1 датская крона | 90.95 | 47.62 | 6.3002 |
| 100 итал. лир | 37.90 | 19.84 | 1,511.8734 |
| 1 канад.доллар | 453.32 | 237.34 | 1.2640 |
| 1 норвеж.крона | 82.44 | 43.16 | 6.9505 |
| 1 доллар США | 573.00 | 300.00 | 1.0000 |
| 1 фин.марка | 101.24 | 53.00 | 5.6598 |
| 1 франц.франк | 103.70 | 54.29 | 5.5256 |
| 1 шведск.крона | 76.91 | 40.27 | 7.4503 |
| 1 швейцар.франк | 377.72 | 197.76 | 1.5170 |
| 10 японск.иен | 45.88 | 24.02 | 124.8910 |
| 1 экю | 683.93 | 358.08 | 0.8378 |
| 10 испанск.песет | 51.22 | 26.82 | 111.8704 |
| 10 греч.драхм | 26.19 | 13.71 | 218.7858 |
| 1 ирландск.фунт | 855.20 | 447.75 | 0.6700 |
| 1 исландск.крона | 8.89 | 4.65 | 64.4544 |
| 1 кувейт.динар | 1,868.03 | 978.03 | 0.3067 |
| 10 ливанск.фунтов | 3.14 | 1.64 | 1,824.8408 |
| 10 португ.эскудо | 38.82 | 20.32 | 147.6043 |
| 1 сингап.доллар | 348.08 | 182.24 | 1.6462 |
| 10 турецк.лир | 0.65 | 0.34 | 8,815.3846 |
| 1 эстонск.крона | 43.84 | 22.95 | 13.0703 |
| 1 сдр ( ) | 784.24 | 410.60 | 0.7306 |

Центральными банками Латвии, Литвы, Украины на 3 февраля 1993 года установлен следующий курс российского рубля к валютам выше названных государств:

1 российский рубль 0,296 латвийских рублей;
1 российский рубль 0,71 литовских талонов;
1 российский рубль 1,6555 украинских карбованцев.

Н.ЛУЗГИН,
начальник валютно-экономического управления.

### За связь без брака



Вчера в Минске открылся международный салон "Современные средства телекоммуникации".

Мероприятие призвано способствовать установлению новых научных, производственных и коммерческих связей белорусских предприятий с западными фирмами, созданию совместных предприятий и привлечению инвестиций.

В рамках салона, участники которого съехались из СНГ, Балтии и западноевропейских стран, проводится семинар. Среди его тем — концепция развития связи Республики Беларусь и программа создания республиканской сети передачи информации.

Ирина ФЕДОРОВА.

### Весна?

**Первые дни февраля ознаменовались возникновением в республике еще одной партии.**

Регистрационное удостоверение N 481 в Министерстве юстиции получила Партия зеленых Беларуси. Штаб-квартира партии находится в Гомеле. Руководящий орган — Зеленая рада из 9 человек. Целью своей деятельности партия ставит обеспечение гражданам Беларуси права на здоровую среду обитания.

Яна ВЕРАСЕНЬ.
БелаПАН.

### Верный тон "Белатона"

**Не дешевые поделки "кассовых" композиторов, а лучшие образцы современной эстрадной музыки предложила покупателям первая и пока единственная в республике фирма грамзаписи "Белатон" из Витебска.**

Диск-премьера с концертом популярной на Западе, но малоизвестной у нас группы "Макс" выпущен 20-тысячным тиражом на германском оборудовании и по качеству звучания соответствует мировому стандарту. К сожалению, руководителю фирмы Арсению Крицкому производство пластинки с витебской маркой пришлось налаживать в Санкт-Петербурге, но бизнесмен от искусства надеется, что со временем и в его родном городе найдется техника и студия для "Белатона".

Степан СТАРОЖИЛ.

### У цен пошла взлетная полоса

**С пятого февраля повышаются цены на авиарейсы по трем маршрутам: Минск — Мурманск, Минск — Самара, Минск — Екатеринбург.**

Цены повышаются в два и более раза. Так, билет до Мурманска, стоивший 5100 рублей, теперь обойдется в 10 200, до Самары (4 000) — нынче 9 тысяч рублей, до Екатеринбурга (4 700) — 11 тысяч.

Как обычно, повышение цен связано с удорожанием на топливо.

Анатолий РОМАНОВИЧ,
РИД.

### Спорт-экспресс

В розыгрыше Кубка МХЛ хоккеисты минского "Динамо" проиграли воскресенскому "Химику" — 2:4.

❑

Андрей Зыгмантович, отказавшийся ехать в турне по Южной Америке с национальной футбольной командой Беларуси, вполне возможно, подпишет контракт с испанским клубом "Рэсинг" из Сантандера.

❑

Голландец Марко ван Бастен признан лучшим футболистом мира 1992 года.

### Этот неподдельный интерес

**В Таджикистане на базе Государственного комитета по внешним экономическим связям образовано Министерство внешних экономических связей Республики Таджикистан.**

Министром назначен Изатулло Хаеев, который заявил, что новое министерство будет решать вопросы установления и развития взаимовыгодных связей с различными государствами и привлечения капитала для подъема национальной экономики, которая сегодня переживает глубокий кризис. Многие страны проявляют большой интерес к Таджикистану, располагающему богатейшими природными ресурсами.

ТАСС.

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", ИТАР—ТАСС, Белинформ, РИД, БелаПАН, радио "Свобода" и БИ-би-си.

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Так хочацца памножыць свае ўклады, але дзе на гэта грошы ўзяць

Мікалай ГАЛКО

Сесія выходзіць на фінішную прамую, што не можа не ўзмацніць напружання, бо складаных пытанняў, акрэсленых парадкам дня, яшчэ шмат, а мяркуецца ўціснуць іх у тры дні.

І тым не менш учора паўгадзіна была аддадзена традыцыйнаму "Рознаму", што дазволіла дэпутату Паўлу Холаду абвінаваціць некаторых сваіх калег у тым, што яны спачатку ўладкаваліся на штатныя пасады ў Вярхоўным Савеце, атрымалі кватэры ў Мінску, а потым адшукалі для сябе больш выгадныя месцы. Лявон Зданевіч звярнуўся з запытам да Міністэрства культуры аб вяртанні вернікам касцёла святой Тройцы на Залатой Горцы ў Мінску. Анатоль Вярцінскі азначыў праблемы, звязаныя з увядзеннем новых пашпартоў. Дэпутаты ад ветэранскай арганізацыі Васіль Сінчылін і Пётр Мінчанка гаварылі пра значэнне Сталінградскай бітвы і святкаванне яе 50-годдзя.

Ранішняе пасяджэнне наогул было нейкім поглядам у мінулае. Дэпутат Міхаіл Качан патрабаваў неадкладна разгледзець пытанне аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ—КПСС. Меркавалася, што да яго дойдзе чарга 5 лютага, але галасаваннем (173 дэпутаты "за") яно было перанесена на ўчарашні дзень.

Праўда, настойлівасць Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча дапамагла спачатку ўзяцца за больш зямное пытанне — аб індэксацыі ўкладаў насельніцтва ў ашчадных банках. Гэта адзін з вельмі цяжкіх антыпадарункаў мінулага. У друку ўжо з'явілася паведамленне, што Савет Міністраў прыняў рашэнне аб падваенні памераў укладаў. Яно сяго-таго ўзрадавала, але заўчасна.

Пытанне ўзялася вырашаць сесія Вярхоўнага Савета. У барацьбу за правы абрабаваных уступілі дэпутаты Васіль Трафіменка, Аляксандр Кузьмянкоў і Яўген Радзецкі. Апошні прапанаваў праіндэксаваць уклады да 10 тысяч рублёў у адпаведнасці з ростам зарплаты. Урад у асобе міністра фінансаў адстойваў сваё рашэнне.

Вельмі цікавым, на мой погляд, было выступленне старшыні Пастаяннай камісіі Аляксандра Саснова. У ім гучалі і непадробны боль за людзей, і дзяржаўная развага, як гэта лепш зрабіць. Ён выказаў шэраг папрокаў у адрас сваіх калег Радзецкага, Кузьмянкова, Трафіменкі і Камая. Трое першых, на яго погляд не прапанавалі шляху вырашэння найскладанейшай праблемы. Аляксей Камай, паводле Саснова, скажона трактаваў прычыны абясцэньвання ўкладаў, абвінавачваючы ў гэтым Гарбачова, Рыжкова, Паўлава.

Саўмінаўскі варыянт індэксацыі і той патрабуе ад дзяржавы дадатковых расходаў звыш 30 мільярдаў рублёў. Самае сумнае, што пад грошы няма тавараў. Любая індэксацыя непазбежна выкліча рост цэн, і ў крамах зноў застануцца толькі прадаўцы. І ні адна з мяркуемых крыніц павышэння памеру ўкладаў не дае падстаў для аптымізму.

Старшыня праўлення Ашчаднага банка Уладзімір Лузгін яснасці ў праблему не ўнёс, хіба толькі запрасіў усіх, хто зайздросціць заробкам банкіраў, прыходзіць да іх на работу ды імкнуўся пераканаць, што цяпер Ашчадны банк цвёрда гарантуе правы ўкладчыкаў.

Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч заявіў, што ідэю індэксацыі ён поўнасцю адмаўляе, назваўшы плануемае павышэнне "махінацыямі з грашовай масай". Тым не менш ён выказаўся за падтрымку грашыма пенсіянераў і інвалідаў.

У спрэчках выступілі дэпутаты Юрый Беленькі, Зянон Ломаць, Сцяпан Пісарэвіч, Уладзімір Грыбанаў. Пачалося галасаванне. Перавагу атрымаў праект Саўміна аб падваенні памераў укладаў (165 галасоў), праект Радзецкага—Кузьмянкова—Трафіменкі сабраў 145 галасоў "за", але ні адзін, ні другі не набраў большасці.

Пастаянная камісія па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва пад кіраўніцтвам Аляксандра Саснова паспрабуе падрыхтаваць новы праект з улікам прапаноў і раскладу сіл.

Потым сесія прыступіла да разгляду праектаў Мытнага кодэксу і Закона "Аб мытным тарыфе".

Перапынкі паміж пасяджэннямі дэпутаты выкарыстоўвалі для абмену думкамі. Так, свае адносіны да пытання аб КПБ—КПСС вызначалі Дэмклуб і аб'яднанне "Беларусь". Гэтае пытанне разглядалася сесіяй у другой палове дня.

### ...Ало, вас слухае "Народная газета"

5 лютага 1993 года, пятніца, з 9.00 да 13.00 вас будзе слухаць па тэлефоне 29-66-04 парламенцкі агладальнік Мікалай Андрэевіч ГАЛКО.



Мікалай ГАЛКО — пра сябе:

Пражытыя мною 45 гадоў укладваюцца ў такую спрошчаную схему: вясковая школа — МАЗ — аўтамеханічны тэхнікум — МТЗ — армія — МТЗ — БДУ — рэдакцыі "Трактора", "Сельской газеты". У "Народнай газеце" з першага дня існавання.

*Из первых уст*

## Пепел Хатыни стучит в мое сердце...

**Правительство Германии согласно выделить 1 миллиард марок жертвам национал-социализма**

На днях в Бонне народный депутат Республики Беларусь, заместитель начальника управления общественной безопасности и обороны Совмина Геннадий Козлов парафировал от имени правительства Соглашение между правительством Республики Беларусь и правительством Федеративной Республики Германии о материальной компенсации гражданам нашего государства — жертвам национал-социалистских преследований. Обозреватель "Народной газеты" Валерий Дроздов в связи с этим попросил Геннадия Козлова ответить на несколько вопросов.

**— Геннадий Иванович, парафированию соглашения, видимо, предшествовала немалая работа.**

— Естественно. И значение его большое. Число людей, прошедших через ад концлагерей, испытавших ужасы рабства в далекой Германии, у нас как нигде велико. Я пока даже не могу назвать точное количество наших граждан, претендующих на компенсационные выплаты (среди них узники концлагерей, гетто; несовершеннолетние узники фашизма; вдовы и дети погибших в тех же концлагерях и гетто; угнанные в Германию на принудительные работы, подвергавшиеся псевдомедицинским экспериментам). Работа по анкетированию всех претендентов еще не завершена. Но таких в Беларуси сотни тысяч!

**— И на что же согласилась Германия?**

— Пока могу сообщить следующее. Правительство Федеративной Республики Германия готово в рамках гуманитарного урегулирования внести одноразовый финансовый вклад в сумме 1 миллиарда немецких марок в фонды взаимопонимания и примирения, которые будут учреждены правительствами Беларуси, России и Украины.

**— В свое время бывший Советский Союз как победитель взыскивал с Германии репарации. О них речь не шла?**

— На предварительном этапе. Должен заметить, что бывшее советское правительство действовало в этом направлении весьма скромно. Всего 10 миллиардов долларов США — такова была репарационная заявка победителей. Более того, в 1950 году эта сумма была сокращена, а затем с 1 января 1954 года взимание репараций вообще прекратилось. СССР успел получить их всего на сумму около 4,3 миллиарда долларов. Причем в собственность ГДР уже позже были переданы перешедшие Союзу 33 предприятия — машиностроительных, химических, металлургических и других. При этом советское правительство отмечало, что оно руководствуется желанием оказать германскому народу существенную помощь не только в экономическом отношении, но и в создании условий, необходимых для восстановления единства Германии. Что, собственно, и произошло в конечном итоге. Я лично считаю, что перед лицом астрономических потерь суммы репараций выглядят более чем скромными. Похоже, в нынешней Германии это понимают.

**— Как будут развиваться события дальше?**

— Сейчас в трех республиках будут создаваться фонды взаимопонимания и примирения. Министерства иностранных дел Беларуси, России и Украины проведут переговоры и согласуют размеры выплат в каждый из трех фондов. Соответствующие счета будут сообщены правительству ФРГ. Германская сторона намерена вести перечисление тремя годовыми взносами по четыреста, триста и триста миллионов немецких марок с 1993 года до мая 1995 года.

**Каким образом и когда будут происходить компенсационные выплаты?**

— Думаю, что начало этой работе будет положено уже во второй половине нынешнего года. Только фонд будет устанавливать необходимые предпосылки для выплат.

*Гутарка з Ігарам Лучанком*

## "Бог даў мне мелодыю..."

**Кампазітар Ігар Лучанок. У кожнага з нас гэта імя выклікае свае асацыяцыі. Як творца, Лучанок — розны, непрадказальны, зменлівы. Па тэмпераменце — выбуховы. Адсюль, відаць, вынікае супярэчлівасць і яго імкненняў — ад чыста мастацкіх да палітычных. Усіх, хто любіць беларускую песню, я думаю, Лучанок цікавіць перш за ўсё як творца. Кожнае інтэрв'ю з ім нешта дадае ў палітру ягонага партрэта. Спадзяюся, што і наша гутарка адкрые новыя рысы ў характары і ў творчасці славутага кампазітара.**



**— Як вядома, усё мае свой пачатак. У творцаў такім пачаткам заўсёды бывае нейкі духоўны імпульс, натолены роднымі крыніцамі, спадчынай. А як пачынаўся кампазітар Ігар Лучанок?**

— У нас багатая культурная спадчына — фальклор, у мелодыцы, словах, інтанацыі якога захавана народная мудрасць, працавітасць, гарманічнае ўспрыманне і асэнсаванне часу. М.Чуркін, Р.Шырма, Г.Цітовіч у сваёй творчасці заўсёды абапіраліся на фальклор і стварылі аснову беларускай прафесійнай песеннай культуры. Яны — мае духоўныя настаўнікі ў музыцы. Але як кампазітар я здзейсніўся дзякуючы і магутнай энергетыцы беларускай літаратурнай класікі. Творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цёткі, Максіма Танка, Пімена Панчанкі для мяне і па сёння самая надзённая і каштоўная крыніца нацыянальных праблем, пачуццяў, думак, якія я імкнуся перадаць у сваіх песнях.

**— Вы некалі і пачыналі з "Гусляра" Янкі Купалы, а пасля былі такія музычныя шэдэўры, як "Спадчына", "Мой родны кут", "Алеся" ...**

— Родная класіка са мною заўсёды. Нядаўна я напісаў песню на верш Якуба Коласа "Роднаму краю". Гэты верш і сёння гучыць жорстка, але справядліва. Песню добра прынялі ў самых розных аўдыторыях — ад вайскоўцаў да рабочых. Шчырасць і боль за свой народ кранае кожнага, хто адчувае сябе беларусам і хто лічыць сябе беларусам. Шлях песні, магчыма, самы кароткі да сэрца чалавека. Ён уводзіць у самыя патаемныя схованкі душы.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*Мы і свет*

## У Еўрапейскім супольніцтве Беларусь павінна быць партнёрам, а не прасіцелем

**— У рамках еўрапейскай інтэграцыі мы з працягнутай рукой нікому не патрэбны. Беларусь могуць успрымаць толькі як раўнапраўнага партнёра, здольнага садзейнічаць развіццю, — сказаў на праведзенай пасля вяртання з сусветнага эканамічнага форуму прэс-канферэнцыі Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч.**

Да такога вываду прыйшла ўся беларуская дэлегацыя пасля трох дзён напружанай работы ў Давосе. За гэты час было праведзена каля трыццаці сустрэч з палітычнымі дзеячамі і эканамістамі свету. Адбыліся гутаркі з прэм'ер-міністрамі Польшчы, Фінляндыі, Нідэрландаў, Славеніі, Латвіі, іншых дзяржаў. Перспектывы супрацоўніцтва Беларусі з сусветным супольніцтвам абмяркоўваліся на сустрэчах з кіраўнікамі Міжнароднага валютнага фонду, Сусветнага банка і Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця.

Станіслаў Шушкевіч выступіў на семінары кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў па праблемах энергетыкі. Каб ісці ўпоравень з развітымі дзяржавамі, рэспубліка павінна павялічыць вытворчасць электраэнергіі на душу насельніцтва ў некалькі разоў. Уласнага вугалю, торфу і газу для гэтай мэты яўна недастаткова, таму развіццю ядзернай энергетыкі ў Беларусі альтэрнатывы пакуль што няма. Дэфіцыт жа электраэнергіі — адна з прычын маруднага руху да рынку.

На пытанні журналістаў адказаў і міністр замежных спраў рэспублікі Пётр Краўчанка. Ён спыніўся на перспектывах міжнароднага супрацоўніцтва і замежнага інвесціравання ў эканоміку рэспублікі. Так, напрыклад, Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця выдзеліў 36 мільёнаў долараў на фінансаванне ў Беларусі праекта па стварэнню самай сучаснай тэлекамунікацыйнай сувязі. Яна павінна ўступіць у строй ужо ў 1994 годзе.

Членам беларускай дэлегацыі было зададзена пытанне: колькі каштавала гэта паездка рэспубліканскай казне? Адказваючы на яго, Станіслаў Шушкевіч запэўніў, што ні цэнта за ўдзел у форуме рэспубліка не заплаціла. Па традыцыі фінансаванне такіх штогадовых сустрэч бяруць на сябе буйнейшыя эканамічныя структуры свету.

Белінфарм.

*Рэпарцёр даведаўся*

## Абы каго сюды не прымуць

**Саюз прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь прыняў у свой склад 14 новых членаў.**

Падзея гэта адметная ў жыцці айчыннага бізнесу, таму што для таго, каб увайсці ў склад такой арганізацыі, трэба ў дастатковай меры зарэкамендаваць сябе ў дзелавых колах. А павелічэнне колькасці аўтарытэтных, сумленных бізнесменаў не можа не радаваць.

Ірына ЛЕЎШЫНА.

## А хто загоіць раны афганскіх медыкаў?

**У хуткім часе ў Беларусі будзе створана рэспубліканская асацыяцыя медыкаў-"афганцаў".**

У яе ўвойдуць каля 300 чалавек, якія выконвалі свой абавязак у Афганістане ў якасці ўрачоў і санітараў. Як мяркуецца, новая асацыяцыя будзе займацца аздараўленнем медыкаў-"афганцаў", аказваць ім дапамогу ў забеспячэнні медыкаментамі, а пры неабходнасці — і прыстасаваннямі для інвалідаў. Арганізатарам і спонсарам гэтай асацыяцыі выступае Рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў аховы здароўя Беларусі.

Таццяна ШЧЭБЕТ, БелаПАН.

## Мазыр стане сталіцай нацыянальнай паэзіі

**Чарговая рада Саюза пісьменнікаў Беларусі прыняла рашэнне правесці традыцыйнае свята паэзіі ў Мазыры.**

Горад над Прыпяццю, як і ўвесь паўднёва-ўсходні рэгіён рэспублікі, упершыню стане сталіцай нацыянальнай паэзіі на пачатку лета.

На пасяджэнні рады быў узгоднены таксама склад рэдкалегіі газеты "Літаратура і мастацтва".

Белінфарм.

## Люты: у Кіеве пацяпленне

**9-11 лютага ў Палацы рэспублікі "Украіна" і на буйнейшых пляцоўках Кіева адбудуцца вялікія канцэрты вядучых мастацкіх калектываў Рэспублікі Беларусь.**

Сярод іх — дзяржаўны акадэмічны народны хор імя Цітовіча, ансамбль танца Беларусі, Дзяржаўны камерны хор, тэатр моды Цэнтра прыгажосці, грацыі і мастацтва г. Магілёва, "Песняры", аркестр камп'ютэрнай музыкі "Ліка і Верасы", студыя "Сябры", група "Раство", ансамбль "Счастливый случай", тэатр сатыры і гумару "Хрыстафор". Кіеўскім жыхарам будуць прадэманстраваны беларускія мастацкія і дакументальныя фільмы, прапанаваны стравы беларускай кухні; пройдуць выстава прыкладнога мастацтва і выстава-продаж кніг.

Вольга РОГАВА.

## Гісторыкі шукаюць адказы...

У Мінску працягвае работу канферэнцыя гісторыкаў Беларусі. Патрэба ў ёй даўно наспела. Мы, па сутнасці, не ведаем сваёй мінуўшчыны, школьнікі і студэнты вучацца па старых падручніках, складзеных з догмаў марксізму-ленінізму і ўсхваленняў сацыялістычных "поспехаў". Якія новыя канцэпцыі і падыходы з'явіліся ў гістарычнай навуцы і гістарычнай адукацыі? Як перайсці да выкладання сапраўднай гісторыі сваёй Бацькаўшчыны? Адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні і збіраюцца знайсці ўдзельнікі прадстаўнічай канферэнцыі.

Іван СЯРГЕЕЎ.

## З Полацка ў Рыгу без перасадак

**З 2 лютага поезд Баранавічы—Полацк падоўжыў свой маршрут да латышскага горада Даўгаўпілс.**

Гэта дасць магчымасць часткова разгрузіць рыжскі напрамак. Акрамя таго, разлічваюць на нядрэнны прыбытак і чыгуначнікі, таму што жадаючых наведаць суседнюю дзяржаву хапае. Паводле папярэдняй дагаворанасці, у бліжэйшы час Латвія мае намер пусціць таксама поезд Рыга—Полацк.

Сяргей НІКАНОРАЎ.

## "Суседзі" ў эфіры

**Выйшла ў эфір сумесная тэлепраграма "Суседзі", падрыхтаваная журналістамі Брэста і Бяла-Падляскі.**

Згодна з дагаворанасцю, падпісанай старшынёй Брэсцкага аблвыканкама Віктарам Бурскім і бялападляскім ваяводам Тадэвушам Коршанем, саракамінутная перадача, прысвечаная клопатам і трывогам людзей, якія жывуць па абодва бакі граніцы, будзе выходзіць у эфір штомесячна.

Польскае інфармацыйнае агенцтва для Белінфарма.

## Амаль рытарычнае пытанне

**Сацыёлагі з нацыянальнай Акадэміі навук звярнуліся да суайчыннікаў з пытаннем: "Куды б вы палічылі за лепшае ўкласці свае зберажэнні ў выпадку прыватызацыі?"**

38 працэнтаў грамадзян аддалі перавагу набыццю нерухомай маёмасці — дома ці гаража. 14 працэнтаў беларусаў прытрымалі б свае накапленні да лепшых часоў. Набыць зямлю ў прыватную ўласнасць пажадалі 10 працэнтаў суайчыннікаў. Столькі ж грамадзян гатовы купіць тавары народнага спажывання. І яшчэ дзесятая частка — пакінуць свае зберажэнні нашчадкам. Толькі каля 8 працэнтаў жыхароў гатовы пачаць уласную справу. Столькі ж лічаць за лепшае ўкласці сродкі ў акцыі прадпрыемстваў. Адзін працэнт звернецца да паслуг інвестыцыйнага фонду. Астатнія не змаглі канкрэтна адказаць.

## Вялікае бачыцца на адлегласці?

**Гомельскі мастак Яўген Іванешка стаў першым сярод землякоў членам прафесійнага творчага саюза мастакоў міжнароднай федэрацыі ЮНЕСКА.**

Такога высокага гонару таленавіты майстар удастоены за высокі прафесіяналізм і ўменне па-філасофску адлюстраваць у сваіх карцінах жыццё і лёс беларускага краю, прыгажосць яго прыроды.

Белінфарм.

# "Бог даў мне мелодыю..."

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**— Гэта тады, калі песня добрая...**

— Вядома, што без жывой інтанацыі, мелодыі, пачуццяў песня застанецца толькі мёртвай канструкцыяй. Яна некалькі разоў мільгане і хутка патухне, не пакінуўшы аніякага следу. Я стараюся пісаць музыку толькі на тыя вершы, у якіх ёсць выразная думка, шчырыя памкненні. Сярод маіх любімых аўтараў — П.Броўка, А.Куляшоў, Н.Гілевіч, У.Някляеў, Р.Барадулін, Г.Бураўкін...

**— Вашай манеры ўласціва розная музычная стылістыка, шмат якія жанры. У вашым кампазітарскім набытку — творы вакальна-сімфанічныя, камерна-інструментальныя, камерна-вакальныя. Апошнія гады пераважае папулярны песенны жанр. Вядома, песня найбольш набліжае кампазітара да шырокай публікі, робіць яго імя вядомым, нават славутым. Але ці няма ў гэтым пагрозы для вас як для мастака?**

— Я лічу, што ўсе жанры, ад песні да оперы, роўныя. Адзін таленавіты верш бывае варты вялікай па аб'ёму паэмы. Мне здаецца, што я мог бы пісаць сімфоніі, квартэты, оперы і, мусіць, яны былі б не горшыя за тыя, якія мы сёння маем. Але, мусіць, Бог даў мне мелодыю і як меладыст я магу найбольш творча выявіцца. Падчас вучобы ў Ленінградскай кансерваторыі я спрабаваў пісаць оперу. Мой настаўнік праслухаў мае спробы і сказаў такую сакраментальную фразу: "Вось будзе яшчэ адзін магільны груд у гэтым жанры!" Я запомніў ягоныя словы і думаю, што кожны павінен рабіць тое, што ў яго лепш атрымліваецца. Мелодыя — мая стыхія. Мне бліжэй мелодыі, у якіх нацыянальны каларыт і самабытнасць.

**— Калі ўжо вы ўспомнілі гады свайго вучнёўства, што прайшлі на ўроках А.Багатырова, В.Салманава, Ц.Хрэннікава, то давайце ўспомнім і вашы ўрокі, вашых вучняў — выхаванцаў Беларускай кансерваторыі.**

— Падчас маёй педагагічнай працы ў мяне вучыліся Ул.Дарохін, М.Ліцвін, Ул.Солтан, Ул.Прохараў, Г.Гарэлава, Я.Паплаўскі — шмат хто. Магу сказаць адно — сваімі вучнямі я задаволены. А ці задаволены яны сваім настаўнікам — не ведаю. Мне і зараз даводзіцца ім памагаць, ужо як старшыні Саюза кампазітараў Беларусі. Праўда, гэтая дапамога больш "зямная", чым творчая. Вырашаю пытанні, звязаныя з атрыманнем новых кватэр, арганізацыяй канцэртаў, аховай аўтарскіх правоў, ганарарнымі стаўкамі... Упэўнены, што без спрыяльных бытавых умоў ніякі творца існаваць нармальна не зможа. Вось я і стараюся. Чым магу, тым дапамагаю.

**— Як вы адчуваеце сябе ў сённяшнім часе? Ці ёсць у вас настальгія па былых гадах, калі вы дасягнулі поспеху, славы? Можа, вам тады было лепш?**

— Ніякае настальгіі няма. Відаць, у тыя гады я нечага ўсё ж дасягнуў. Я быў сярод першых, каму ўручылі саюзную прэмію Ленінскага камсамола; мяне ведалі па ўсім былым Савецкім Саюзе. У тыя часы Беларусь лічылася правінцыяй, і цяжка было каму-небудзь прабіцца, каб выступіць, скажам, у той жа Маскве. А пра замежжа я і не кажу. А мяне запрашалі, запрашалі часта — я і ездзіў, выступаў, удзельнічаў у розных афіцыйных мерапрыемствах і г.д. Прыемна было, што ведаюць. Я мог нешта рабіць і для іншых. Афіцыйнае прызнанне адчыняла дзверы самых недаступных кабінетаў. Але для таго, каб здабыць яго, гэтае прызнанне, каб "выбіцца ў людзі", трэба было шмат працаваць і на сябе, і на людзей, і на "дзядзьку чужога". Даваць шэфскія канцэрты па першым выкліку розных органаў, выступаць на БАМе, у калгасах, на заводах. Гэта была (і ёсць!) запланаваная эксплуатацыя творцы ўладай. На нас — кампазітараў, спевакоў, паэтаў — заўсёды глядзелі, як на рабоў. Думаю, што ў такім становішчы аказваліся амаль усе, хто дасягнуў поспеху і вядомасці ў былыя гады так званага застою. Дарэчы, аб гэтым добра сказала ў сваіх успамінах Галіна Вішнеўская... Кампазітар ці спявак, на жаль, не можа працаваць "у стол". Такая магчымасць дадзена хіба што адным пісьменнікам і то самым незалежным, самым мужным. Кожнаму ж хочацца, каб яго ведалі пры жыцці. Канешне, такія жорсткія ўмовы для творчага існавання схілялі і да пэўнага канфармізму. Што ж тычыцца мяне, то калі я рабіў нешта кампраміснае, не буду хавацца, грэх такі ёсць, — то рабіў гэта не за кошт іншых. А за кошт свайго часу, нерваў, цярпення...

**— Ігар Міхайлавіч, а зараз, калі шмат што змянілася на палітычнай карце, ці стала прасцей вам знаходзіць паразуменне з уладай? Ці ўсё засталося па-старому?**

— Мяркуйце самі. 21 снежня ў гарадскім пасёлку Мір адбылася сустрэча Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі рэспублікі. Прыкладна за дзень да гэтага я бачыўся з Вячаславам Францавічам у Пухавічах, і ён мяне запрасіў у Мір. Уяўляеце, запрашае сам Старшыня Савета Міністраў, а не арганізатары гэтага мерапрыемства. Мне як старшыні Саюза кампазітараў нават не пазванілі... Я вітаю сам працэс дэмакратызацыі грамадства, але адносіны ўлады да творцаў амаль што не памяняліся. Як і раней, і цяпер мы стаім з працягнутай рукой. Прычым стаім перад людзьмі, высокачыноўнымі багамі, якія мала што разумеюць у мастацтве, а можа, нават і не адчуваюць у ім патрэбы наогул. Як і раней, мне амаль штодня даводзіцца хадзіць і прасіць самых розных рэчаў — ад тых жа кватэр да арганізацыі канцэртаў. Сумны занятак. Даводзіцца думаць пра зарплаты, якія атрымліваюць нашы музыканты. А зарплаты гэтыя, кожны ведае, — жабрацкія. А ганарары, якія атрымліваюць кампазітары? Таксама жабрацкія. І палёгкі пакуль што аніякай. У маёй ролі вечнага прасіцеля дапамагае тое, што мяне ведаюць і ведаюць мае песні. Можа, мне й пашанцавала, што ў асноўным я кампазітар песенны. А песню любяць нават інспектары райвыканкамаў. Дык вось, за ўсёй гэтай мітуснёй не забыць бы саму песню. Вось паслухайце, што я напісаў учора...

* * *

Ігар Міхайлавіч сеў за раяль. І як толькі ўзяў першыя акорды — знікла ўзбуджанасць, нервовасць. Засталася музыка. Слухаючы яго новую песню, я падумала, што Лучанок можа быць розным, самым розным, але існасць яго душы выяўляецца толькі ў гуках, якія так зладжана спалучаны ў трапяткую мелодыю. Ён любіць музыку, любіць бязмежна. І няма ніякага сумнення ў тым, што без музыкі ён не пражыве ні дня. А мы?

Гутарку вяла Вольга ШЧАДРЫНА.

*Нам стала вядома*

## Граніцу будуць ахоўваць прафесіяналы

**Больш як пяцьдзесят курсантаў прымалі днямі віншаванні з заканчэннем пазаштатнага пагранічнага факультэта пры вышэйшых курсах Камітэта дзяржбяспекі рэспублікі.**

Тут на працягу трох месяцаў яны авалодвалі сакрэтамі майстэрства ў аддзяленнях пагранічнага кантролю. Усім прысвоена воінскае званне "прапаршчык", аддадзены загад аб накіраванні іх на службу па захаванню пашпартнага рэжыму, ахове эканамічных інтарэсаў на граніцы з краінамі Балтыі.

У Беларусі і далей будзе весціся падрыхтоўка прафесійных кадраў пагранічнікаў. Цяпер ідзе набор чарговай групы, якая пачне заняткі ўжо ў канцы гэтага месяца.

Міхаіл ЖУРАВОВІЧ.

## Эстафету прынялі харавікі

**Падарыўшы сталічнаму слухачу выдатны джазавы сейшн, Белдзяржфілармонія з лёгкай рукі спонсараў вырашыла парадаваць чарговымі "днямі" паклоннікаў харавой музыкі.**

Яны пачаліся 2 лютага вялікім канцэртам Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі імя Рыгора Шырмы, якой кіруе заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Людміла Яфімава.

А 4 лютага ў канцэртнай зале сваё мастацтва прадэманструюць Дзяржаўны камерны хор Літвы "Поліфанія" і Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі.

Віктар КУКЛОЎ.

## Міні-"Віцязь"

**Хоць і чорна-белым, але затое за даволі ўмераную плату змогуць убачыць свет праз прызму тэлеэкрана жыхары Беларусі.**

Віцебскае вытворчае аб'яднанне "Віцязь" пачало выпуск новай малагабарытнай мадэлі тэлевізара. Размер экрана міні-"Віцязя" — 34 сантыметры па дыяганалі, цана — у тры разы меншая, чым яго каляровага сабрата. Першая партыя "перафарбаваных" тэлевізараў паступіць у продаж ужо ў сакавіку гэтага года.

Белінфарм.

*Лісты парламенту аб мове*

## Заўтра будзе позна

Шаноўныя (этыка патрабуе) народныя дэпутаты аб'яднання "Беларусь", да вас звяртаецца былая настаўніца-беларусазнавец, зараз пенсіянерка. Адпрацавала я 40 гадоў, выкладала беларускую мову і літаратуру. Якая гэта была неймаверна цяжкая праца для мяне і маіх калег! Дзень пры дні мы падымалі роднае беларускае слова з бруду, у які яго старанна затоптвалі чыноўнікі рознага рангу. Даносілі гэтае слова да душ і сэрцаў сваіх выхаванцаў. І калі з іх хоць хто адзін станавіўся свядомым беларусам, то гэта была самая вялікая плата за нашу працу. Дарэчы, нам дзяржава плаціла менш, чым настаўнікам рускай мовы.

А цяпер, калі беларуская мова набыла дзяржаўнасць, стала крыху падымацца на ногі, некаторыя імкнуцца яе зноў затаптаць і знішчыць.

*Скажыце, калі ласка:*
*Чаго вам хочацца, панове?*
*Які вас выклікаў прымус*
*Забіць трывогу аб той мове,*
*Якой азваўся беларус?*
*Чаму вам дзіка яго мова?..*

Ці памятаеце вы каму адрасаваў гэты верш Янка Купала? Ворагам Беларушчыны. Не пераваліся яны і па сённяшні дзень. Гэта яны прыдумалі "двуязычие". Але нішто жывое на свеце не мае двух языкоў, толькі гадзюкі.

Калі, шаноўныя народныя дэпутаты, вы зробіце дзяржаўнай мовай рускую, якой і так жывецца "вольготно" на Беларусі, то гэтым вы адцягнеце час Адраджэння, але знішчыць яго ўжо не зможаце. Беларускі народ мае свой гонар і гнецца толькі да пары.

Няхай квітнее і развіваецца руская мова, ніхто не супраць. Няхай карыстаецца ёю кожны, хто хоча, нікому не забараняецца. Але дзяржаўнай мовай на Беларусі павінна быць толькі беларуская. Іншага нашчадкі нам не даруюць. Яны, прабачце, плюнуць на нашы магілы. На вашы — што знішчылі мову, а з ёю культуру і гісторыю вялікай нацыі, на нашы — што не баранілі яе ад вас сёння, бо бараніць заўтра можа быць позна.

Марыя НЯЧАЙ,
ветэран працы.

## "Бацьку і маці не выбіраюць"

На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь вырашаецца пытанне аб дзяржаўнай мове рэспублікі.

Ва ўсіх краінах СНД і ўсяго свету дзяржаўнай з'яўляецца мова народа краіны, карэннага насельніцтва, а ў нас некаторыя наменклатуршчыкі дамагаюцца, каб дзяржаўнай мовай была чужая мова — руская або двухмоўе. А гэта ж азначае пагібель беларускай мовы.

Доўгі час нам гаварылі, што ў беларусаў і іншых народаў былога СССР здзейснілася доўгачаканая мара — яны могуць навучацца на роднай мове. І вось партакраты і іх памагатыя, якіх у парламенце больш за 80 працэнтаў, хочуць вынішчыць з каранямі мову нашых продкаў. Як выказаўся Ніл Гілевіч: "Нам прапануюць зрабіць замах на родную мову, дэмакратычна задушыць яе сваімі рукамі".

Нават многія з рускамоўнага насельніцтва адстойваюць беларускую мову. Ніякага рэферэндуму і апытання па пытанню мовы быць не можа. Як гаворыць народная мудрасць: "Маці і бацьку не выбіраюць". Так і мову.

З павагай

Дзмітрый Піліпавіч САМОЙЛЕНКА,
інвалід Вялікай Айчыннай вайны другой групы.

## Гаспадыня і пані

Апошнім часам грамадзяне Беларусі сталі сведкамі шаленства розных антыбеларускіх сіл, ворагаў беларускага Адраджэння. Яны люта ненавідзяць усё, што звязана з Беларуссю, яе гісторыяй. Нават словы "сойм", "рада" — спрадвечна беларускія выклікаюць у іх злосць. Маю на ўвазе і некаторых дэпутатаў у Вярхоўным Савеце Беларусі. Не вамі заведзена гэтая сімволіка, і не вам яе адмяняць. Гэтак жа і з беларускай мовай. На сваёй Радзіме, на зямлі, палітай крывёй продкаў, толькі беларуская мова гаспадыня і пані. Ды любая дэмакратычная краіна абараняе найперш інтарэсы свайго, карэннага народа, яго мову як аснову дзяржаўнасці. Паднялі вэрхал з другой дзяржаўнай мовай — рускай. А хіба польская мова мае меншыя правы, калі ўлічыць уклад польскай меншасці ў гісторыю Беларусі? Ды толькі палякі разумеюць: калі не адродзіцца беларуская мова як дзяржаўная, мова карэннай большасці, то польская будзе мець мала шанцаў на адраджэнне.

Як толькі ні абражаюць БНФ! Мы ж цяпер усе верым у Бога, а калі так, то ўсё, што робіцца, — ад Бога. Таму і БНФ паслаў да нас Гасподзь Бог, каб вызваліць народ Беларусі ад пакут. Менавіта праз БНФ да нас завітаў гонар за Беларусь, яе народ, нас стаў паважаць свет.

П.К.ПАЛЯКОЎ,
пенсіянер.

## Чаго вы хочаце, панове?

Цяпер для мяне відавочна, што толькі нацыянальная інтэлігенцыя — сумленне любой нацыі — здольна павесці шматпакутны беларускі народ па шляху да праўды, да сваіх вытокаў. Але толькі ў нас дэпутат можа выступіць з абразай і знявагай дзяржаўнага сцяга, які зусім нядаўна на Алімпіядзе ў Барселоне падымаўся ў гонар нашых землякоў-пераможцаў.

Хацеў бы гэтаксама дадаць, што як прадстаўнік нацыянальнай меншасці ў рэспубліцы лічу магчымым дамагацца прызнання за ўкраінскай мовай статусу дзяржаўнай у выпадку надання такога статусу расійскай мове.

З павагай

Алесь РЫМАРУК,
слесар.

*Необычная тема*

# А на кладбище все спокойненько?,

## или Размышления на границе двух миров

Елена МОЛОЧКО
Фото Сергея ГРИЦА

— Эту аллею можно смело назвать моим именем, — почти торжественно произнес Казимир Леонидович Каменко.

Опешив от неожиданных слов, я с удивлением посмотрела на собеседника. Нет, он не шутил. Да и какие шутки! — мы шли по главной аллее Северного кладбища. В тот день прошел обильный снегопад. Он преобразил памятники, железные ограды, деревья, придав всему торжественную величавость, его так недостает нашим убогим погостам, где царит стандарт и обыденность — впрочем, это вообще отличительная черта нашего современного бытия.

— Сколько пришлось побегать, чтобы дорогу наконец заасфальтировали! — вдохновенно продолжал свою мысль директор кладбища. — Зато теперь в любую погоду как по проспекту пройти можно.

Своей хозяйственной жилкой директор явно гордился. Он рассказал, что теперь его забота номер один — это хорошая ограда вокруг всего кладбища. Потом показал озерцо, которое не так давно соорудили на массиве — пусть будет вода для красоты, тоже ведь не последнее дело на кладбище. И еще поделился: хочет добиться, чтобы возвели на Северном маленькую часовенку...

Нет, все-таки ради справедливости надо сказать: умела наша бывшая партия людей для работы подбирать. Вот Казимир Леонидович Каменко, директор Северного кладбища, — одна из несомненных удач райкома в кадровой политике. Офицер, окончил академию в Москве, служил в Афганистане. Вышел в отставку, и тут райком партии его призывает и предлагает возглавить такой вот нестандартный "фронт работ". Казимир Леонидович сначала обиделся и наотрез отказался. Непрестижно — тогда, лет пять назад, это для нас еще имело значение. Райком партии "нажал": где, мол, ваш партбилет, товарищ офицер? Не тяжело носить? Но время было уже не то, чтобы дрожать от страха за партийную книжку перед райкомом, и если Каменко и согласился на эту должность, то просто потому, что потом уговорили его по-человечески.

Ну вот и служит теперь Казимир Леонидович на границе двух миров, как называют кладбище японцы. А на границах у нас сейчас неспокойно — и между государствами, и между "мирами" тем более. У центрального входа Казимир Леонидович даже повесил объявление: черными буквами на красном фоне — впечатляет! Для пущей убедительности он прочитал его вслух:

"Граждане, не оставляйте вещи без присмотра. Крадут."

Доступно и лаконично. Единственное, что непонятно, как "не оставлять без присмотра" памятник, ведь в последнее время крадут именно их.

...Это было еще в конце осени. В редакцию пришла женщина. Она представилась только по имени-отчеству — Анна Кузьминична. Назвать фамилию наотрез отказалась. Она боялась. Несколько дней назад варварски разграбили мраморный памятник на могиле ее отца. Женщину била дрожь, она запиналась, с трудом подбирала слова...

— Человек этого сделать не мог. Только подонок, зверь. А для такого нет преграды... Если я назову свою фамилию, они меня "вычислят" и убьют, — твердила Анна Кузьминична.

Нелепо было успокаивать, разубеждать потрясенную женщину. В душе ее, видно, что-то непоправимо сломалось.

— Я уеду из Минска. Это чудовищный город. Меня здесь больше ничего не держит. Могила разграблена. Боже, как пережить эту боль? Знаете, можно ничего не иметь в этом материальном мире, но все равно чувствовать себя сильным, защищенным человеком, потому что душу твою охраняет память. Да, память о близком, о любимом — это всегда подмога, опора, твердыня, понимаете? Не уберегла... Я словно дерево, с которого содрали кору. Мне кажется, я теперь доступна любому злу, любой мерзости, несправедливости. Они добрались до самого сокровенного и разрушили его... Я часто приходила на могилу отца. Он воевал, пережил концлагерь. Я приходила на кладбище и молилась за его душу: пусть хоть теперь ей будет спокойно и светло. А теперь боюсь этого места, как чего-то нечистого... Представляете, все разрушено, растоптано. Как увидела, кинулась к директору — это совсем близко от моего 45-го участка. У него как раз сидело два молоденьких милиционера. Они тут же пошли со мной, начали осматривать все кругом и нашли куски мраморного цветника за забором. Значит, их приготовили уже, чтобы в удобный момент подъехать на машине и забрать. Неужели можно продать куски памятника с чужой могилы? — Анна Кузьминична не спрашивала — вопрошала. — Неужели такое можно совершить и остаться безнаказанным?..

Совковый атеизм — явление страшное. Мало того, что убог, невежествен, так еще и жесток. Только неверующий — это плоть без духа, "случайное сцепление частиц без смысла и цели", как писал Лев Толстой, — мог совершить подобный вандализм, жалким умишком своим рассчитав, что подобное можно скрыть. Но скрыть от кого? От милиции? Так она не сильно и обеспокоена. Северное кладбище милицией у нас вообще не охраняется. К тому же половина массива еще не огорожена забором. Да если б он и был, разве это непреодолимая преграда? Замки, заборы — они существуют для честных людей. Подонков же ничего и никогда не останавливает.

Несколько лет назад я сама пережила подобный шок. На могиле у близкого мне человека варварски сломали плакучую иву. Когда-то дерево там посадила жена: покойный супруг любил звать ее Ивушкой... За пять лет тоненький прутик вытянулся, окреп. Он был очень красив и печален. Словно длинными пальцами, нежными ветками слегка дотрагивался до розового гранитного камня. За что уничтожили дерево?!

Это было так неожиданно, так жестоко, так подло... Ведь где-где, а на кладбище, у родной могилы меньше всего готов к человеческому коварству и злобе. Помню, я тогда металась от телефона к двери и обратно: что делать, кому звонить, кому жаловаться? Потом наступили минуты апатии: разве жалобами здесь что-то исправишь? Разве помогут они пережить эту боль?..

А к директору Северного кладбища я тогда не дозвонилась по одной простой причине: его уволили с этой должности за пьянство. То был предшественник Казимира Леонидовича Каменко. Поразительно все-таки: у всех народов кладбище — самое святое и скорбное место. А у нас, похоже, оно стало средоточием самых тяжких людских пороков. Или это нам в наказание за беспамятство наше, за безбожие?.. Кстати, Казимир Леонидович, когда приступил к работе, начал с того, что половину рабочих-могильщиков (теперь они, правда, называются санитарами) выгнал с работы по той же причине: беспробудно пили. Уволенные пообещали директора убить. Пришлось Казимиру Леонидовичу еще нескольких выставить за дверь, чтоб остальные убедились: с кадровым офицером этот номер не пройдет.



Впрочем, дело, на мой взгляд, не только и даже не столько в тех людях, которые работают на кладбище. Мы сами их приучили к бутылке, ведь славянский погребальный обряд без водки даже представить трудно. Что ж теперь ханжить, что работяги там быстро становятся забулдыгами? Сами подносим... Проблема в другом. В обществе в целом нет глубокого почтения к "отеческим гробам", они, признаемся, даже не входят в современную систему нравственных ценностей — вот где настоящая трагедия. А могло ли быть иначе? "Отречемся от старого мира!" Эти слова впечатаны в сознание моего поколения еще с детства. Вся наша история — это отречение. Сначала в 17-м, потом клеймили прошлое в хрущевскую "оттепель", теперь мы вновь отряхиваемся от него, словно от дорожной пыли. Кто-то рушит памятники на площадях, кто-то разбивает их на кладбищах. Одни надеются добыть политический капитал, другие — копейку добыть за куски украденной чужой памяти. А в результате в обществе, кажется, не осталось ничего святого. Нет в душах внутренних запретов и преград — нет ни Бога, ни царя, ни совести. Никто не страшен, ничто не почитаемо, ни перед кем не ответственны.

К середине года Северное кладбище закрывается, рассчитывают, что весь массив к тому времени уже захоронят. Пройдет время, и, может, действительно на кладбище возведут часовню. Будут приходить туда люди, зажигать тоненькие свечи, преклонять колени, вспоминая о близких и далеких, обо всех ушедших с нашей земли. И, может быть, небеса вернут наконец нашим душам покой. И подарят покаяние и прощение. И восстановится растасканная, изорванная память.

